# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 42 (607) Год XII 15 КАСТРЫЧНІКА 1967 г. ЦАНА 60 гр.


## „Лявоніха" пад кіраўніцтвам Ю. Шурбака

**Эстрада ГП БГКТ «Лявоніха» пасля кароткага перапынку зноў пачала сваю дзейнасць, зноў пашырае і славіць беларускую і рускую песню на Беласточчыне. «Лявоніха» зараз працуе пад кіраўніцтвам Юры Шурбака дагэтуляшняга дырыжора Бельскага хора БГКТ. У эстрадзе ад нядаўна таксама і новы акампаніятар. З'яўляецца ім Веслаў Шутко. «Лявонісе» пад новым кіраўніцтвам жадаем дабіцца як найвышэйшага мастацкага ўзроўню. (мх)**



У Белавежы найпрыгажэй восенню, калі лісцё дрэў зіхаціць рознымі колерамі.
Фота: В. Рудчык







**Канстанцін Матэйчук,** зараз пенсіянер, жыве ў **Агароднічках, Беластоцкага павета.** З гэтай вёскай зжыўся, зрэшты, тут нарадзіўся, выхаваўся, гадаваў дзяцей.

Прыняць удзел у Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года Матэйчуку прыйшлося прыпадкова. Перад яе пачаткам служыў у царскай арміі, нават закончыў у Царскім Сяле школу вучэбнай каманды. За Керэнскага быў высланы ў Пскоў у школу прапаршчыкаў. Адсюль быў адасланы на фронт пад Рыгу.

— Але вайна мне так абрыдла, — успамінае К. Матэйчук, — што разам з іншымі салдатамі вырашыў уцячы. Прыехаў да дзядзькі, які ў той час жыў каля Петраграда. Адсюль мы часта выязджалі ў Піцер. Тут я наглядзеўся на ўсялякія дэманстрацыі ды і здаваў сабе справу, што я ваенны і маю адзіны выхад: або ісці на фронт, або прылучыцца да рэвалюцыі.

Матэйчук выбраў другое, гэта было бліжэйшым яго поглядам і паходжанню.

Рэвалюцыі пачалі пагражаць Карнілаў і Дзянікін. К. Матэйчук быў накіраваны ў Царыцын як член утворанай Чырвонай Гвардыі. У 1918 годзе Канстанціну Матэйчуку давяраюць арганізаваць Першы добраахвотны рабоча-сялянскі полк. Часова быў камандзірам гэтага палка. З ім іменна выехаў на папаўненне сваіх, пад Калач, на барацьбу з Дзянікінам. Здаўшы полк, астаўся ў ім камандзірам роты.

— Свайго часу ноччу я правяраў варты і тут жа наткнуўся на дзянікінцаў. Безумоўна, назад ужо не вярнуўся. Судзіў мяне ваенны палявы суд станіцы Бярозаўка. Быў я засуджаны на смерць. Аднак і ў іх быў звычай, што афіцэраў адразу не расстрэльвалі. Я хутка склаў прашэнне, што я бежанец, і такім чынам кару смерці мне замянілі на 20 год катаржных работ.

Таварыш Матэйчук 16 месяцаў прасядзеў у Новачаркаску ў кайданах. Тут, як і наогул тады ў Расіі, шалелі розныя хваробы. Заражаная тыфам ляжала ўся турма. Ляжаў і Канстанцін. Большасць памерла, але Косцю ўдалося пражыць. Са шпіталя быў накіраваны ў Александрагрушэўск у Парамонаўскі руднік адбываць кару.

— Кожны жывы чалавек, якому пагражае смерць, мае нейкую надзею. Меў яе і я. Тым больш, што калі мы ішлі да працы ў руднік, дык чулі выстралы. Гэта была нашая Чырвоная Армія, якая вярталася з-пад Арла. Праз дзён 10 фронт быў ля нашай шахты. Катаржнікаў дзянікінцы забіралі з сабой. Па дарозе да Новачэркаска ўсіх расстралялі. Нас 29 чалавек вырашылі астацца ў шахце на глыбіні 350 сажняў (700 м), бо так і так смерць. Частка маіх калегаў паўмірала, я і некалькі іншых асталіся жывымі.

Такім чынам у снежні 1919 года К. Матэйчук быў на свабодзе. Меў да выбару: ісці куды ногі панясуць, або астацца ў арміі. Астаўся ў арміі і працаваў у прадавольствіі палка. Уступіў у партыю і ад таго часу быў зноў камандзірам роты аж да поўнай ліквідацыі дзянікінскай контррэвалюцыі ў Новарасійску над Азоўскім морам.

Маладой савецкай рэспублікі пагражала армія санацыйнай Польшчы. Трэба было падцягнуць пояс і зноў на фронт.

— Так знайшоўся я на польскім фронце ў Бярэзіне пад Мінскам. Адсюль мы хутка падыйшлі пад Варшаву. Быў я ў той час намеснікам камандзіра батальёна. Тут пад Радзымінам нас акружылі познанскія палкі і я трапіў у палон.

Пасля следства быў высланы ў лагер Тухоля, дзе прасядзеў 7 месяцаў. Адсюль К. Матэйчук напісаў пісьмо да бацькоў, дзякуючы якім 3 лютага 1921 года вярнуўся ў Агароднічкі.

Тут ён навязаў кантакты з КПЗБ. 1.III. 1922 года за падрыўную работу атрымаў 4 гады цяжкай турмы ад санацыйных улад Польшчы і быў пазбаўлены ганаровых і грамадзянскіх правоў назаўсёды. Так прасядзеў 5 год і тры месяцы ў турмах: Беластока, Макатова, Вронак і Лукішак.

— Адбыўшы кару зноў вярнуўся я ў Агароднічкі. Зразумела, не мог атрымаць ніякай працы. Памятаю, у вёсцы выбралі мяне солтысам, але нічога з таго не атрымалася, я ж без правоў. А на кожнае 1 Мая ў нашай хаце паліцыя праводзіла рэвізію, а часам проста арыштоўвалі мяне.

**Аляксей Карпюк**



Кастусь Матэйчук.

Войска з людам, люд з войскам!» Гэты абцёрты, як старая вопратка, заклік у адносінах да **войск аховы пагранічча** захаваў свежасць поўную глыбокага зместу.

Афіцэр ВОП, Ян Жэброўскі, гаворыць:

— Супрацоўніцтва з насельніцтвам з'яўляецца адным з галоўных заданняў у нашай службе дзяржаве. Без гэтага супрацоўніцтва немагчыма было б эфектыўна ахоўваць нашу дзяржаўную граніцу.

Словы агульныя, сказаў бы, дэкларатыўныя. Дыктуе іх аднак шматгадовы вопыт афіцэрскай службы на розных адрэзках нашай граніцы, а штодзённае жыццё дапаўняе гэтыя словы жывымі фактамі і прыкладамі.

## НАРОДНАЕ З НАРОДАМ

Дзядзька Альфонс Руткоўскі жыве на прыгранічным хутары ў Дуброўскім павеце. Стары ён ужо. Выхоўвае ўнучку, сіротку Яню Марцінкевіч, вучаніцу VII-га класа. Вясной г.г. на хутар да Руткоўскага зайшоў нейкі чужы чалавек. Нібы вады напіцца і запытаць пра дарогу. Цікавіла яго аднак многа больш. Выпытваў пра граніцу, хто яе ахоўвае, як часта бываюць вайсковыя патрулі. Дзядзьку Руткоўскаму выдаўся падазроны гэты чужы чалавек. Зайшоўшы ў хату, шапнуў сваёй унучцы, каб паведаміла пагранічнікаў. Яна тут жа паімчалася некалькі кіламетраў у школу, дзе знаходзіўся тэлефон. Дзядзька Руткоўскі тым часам, загаварваў няпрошанага госця. Незадоўга прыехалі пагранічнікі. «Госць» Руткоўскага аказаўся злачынцам. **Камандванне беластоцкай часці войск аховы пагранічча высока ацаніла грамадзянскую пільнасць жыхараў прыгранічнага хутара.** Яні Марцінкевіч урачыста быў уручаны новенькі веласіпед «Алімпія», каб мела яна чым даязджаць у школу.

Гэта, вядома, не адзіночны прыклад. Іншым разам пагранічны злачынца ў Сувальскім павеце наткнуўся на Пятра Анзулевіча, які тут жа паведаміў афіцэра ВОП. Злачынцу арыштавалі, а Пятро Анзулевіч, як узнагароду, атрымаў наручны гадзіннік за 700 злотых.

— Граніцу, якую мы ахоўваем, — гаворыць афіцэр ВОП, — з'яўляецца граніцай дружбы і цеснага супрацоўніцтва. Сведчаць аб тым хаця б шматлюдныя мітынгі, якія адбываліся ў Бераставіцы на савецкім баку і ў Ялоўцы на нашым баку. На такія мерапрыемствы могуць дазволіць сабе толькі дзяржавы, якія глыбока пераконаны ў сваёй узаемнай дружбе. Але граніцу нашу намагаюцца пераходзіць розныя злачынцы — крымінальныя і палітычныя. Таму патрэбная пільнасць і неабходнае супрацоўніцтва з цывільным насельніцтвам. Мы са свайго боку паглыбляем гэтае супрацоўніцтва ўсімі даступнымі нам сродкамі. Дзесяць нашых афіцэраў насельніцтва Беласточчыны выбрана ў радныя, амаль 60 пагранічнікаў пастаянна прымае ўдзел у працах розных грамадскіх арганізацый, між іншым, і у БГКТ, жонкі некаторых афіцэраў працуюць у мясцовых жаночых арганізацыях. Наш мастацкі калектыў толькі ў гэтым годзе выступіў у 18-ці мясцовасцях, а наша кінаперасоўка прадэманстравала 150 кінасеансаў, перш за ўсё ў вёсках, дзе людзі яшчэ не бачылі сапраўднага кіно. Наш аркестр аж 85 разоў наладжваў танцавальныя вечарынкі для вясковай моладзі. Можна было б гаварыць яшчэ пра гутаркі і даклады, з якімі ў вёсках выступаюць нашы афіцэры, і пра дапамогу нашых салдат у тэрміновых палявых працах для сялян. Аднак не спосаб штодзённых кантактаў пагранічнікаў і цывіль-

(Працяг на стар. 4)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### МАЛАДЫЯ Ў ФРАНЦЫІ

«Белая кніга» ў Францыі — вынік шматгадовай працы сацыёлагаў, псіхолагаў і спецыялістаў іншых галін навукі. Гэта найвялікшая крыніца ведаў, як ацэньваюць некаторыя, аб сучаснай французскай моладзі. Сёння мы падаем некаторыя даныя дэмаграфічнага характару.

Маладых людзей, якім менш 20 год, налічваецца ў Францыі 16 мільёнаў, што раўняецца 1/3 усяго насельніцтва. Прадбачваецца, што ў 1971 годзе 40% французаў, г. зн. 21 мільён, будзе ва ўзросце ніжэй 25 год. Ад 1946 года Францыі прыбывала кожны год 800 тысяч дзяцей, калі ў даваенны перыяд толькі 600 тысяч у год. Рэзультаты гэтага відавочны на вышэйшых навучальных установах. У 1958—1964 гадах колькасць студэнтаў падвоілася. Чарговае падваенне студэнтаў мае наступіць у 1967—1973 гадах.

### ЧОРНАЯ АМЕРЫКА...

Негрыцянскі рух у ЗША працягвае сваю з усіх бакоў апраўданую барацьбу за тое, «каб людзьмі звацца». На колькі гэты рух можа быць магутным, хай гавораць ніжэй паданыя факты.

**Сярод 197 мільёнаў** жыхараў Злучаных Штатаў пражывае **23 мільёны** неграў, а гэта абазначае, што на кожныя **100 жыхараў** гэтай краіны **12** мае чорны колер скуры.

Гэты працэнт павялічваецца з года ў год, таму што натуральны прырост у негрыцянскіх гетах на многа вышэйшы, чым у раёнах белых.

Але ўжо ёсць і сёння ў ЗША гарады, у якіх негры прадстаўляюць сабой большасць насельніцтва. Напрыклад, у **Вашынгтоне,** федэральнай сталіцы Злучаных Штатаў, негры прадстаўляюць **63% усіх жыхараў.**

### ...І СТРАТЫ

З Амерыкі даносяць, што ў часе негрыцянскіх хваляванняў летам гэтага года ЗША панеслі страты **100 мільёнаў** долараў, з чаго **Дэтройт 80 мільёнаў** долараў.

### САМАСПАЛЕННІ

Рух супраць паўднёвав'етнамскіх марыянетак пасля апошніх выбараў насіляецца. Свой голас пратэсту супроць умешвання «ўрада» ў справы рэлігіі паднеслі будысты. **Адна з манашак спалілася, а далейшыя 100 чалавек загразілі, што зробяць тое самае, калі надалей будзе працягвацца ўмешванне ваенных у справы будыйскай рэлігіі.**

### У СССР

У савецкай гаспадарцы працуе зараз больш **12 мільёнаў** спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй прафесіянальнай адукацыяй, у тым налічваецца: 1 мільён 631 тысяча інжынераў; больш 2 мільёнаў 886 тысяч тэхнікаў; каля 800 тысяч прафесіяналаў сельскай гаспадаркі; 667 тысяч навуковых работнікаў: 555 тысяч лекараў.

Тэхнічныя вузы ў СССР канчае ў тры разы больш інжынераў, чым у ЗША.

**А. К.**

## БССР

### «ЭКСПО-67»

На Сусветнай выстаўцы ў Манрэалі праводзіўся Дзень Беларускай ССР.

У гарадку **«Экспо-67»** на плошчы Нацый адбылася маляўнічая цырымонія ўзняцця над Сусветнай выстаўкай Дзяржаўнага флага Савецкай Беларусі — раўнапраўнага члена Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Яшчэ задоўга да пачатку свята трыбуны плошчы Нацый, упрыгожаныя флагамі краін — удзельніц **«Экспо-67»,** запоўнілі шматлікія госці. Яны сустрэлі апладысментамі калону беларускіх артыстаў, якая з'явілася ў яркіх нацыянальных касцюмах на асфальтаваным квадраце плошчы. Над калонай развяваліся сцягі Беларускай Рэспублікі. Затым выйшла ганаровая варта — рота канадскіх ваенных маракоў, апранутых у маляўнічую форму марскіх гвардзейцаў мінулага стагоддзя.

Галоўную трыбуну заняў кіраўнік беларускай дэлегацыі, Старшыня Савета Міністраў БССР, Ц. Кісялёў у суправаджэнні генеральнага камісара Сусветнай выстаўкі П'ера Дзюпюі.

У сваёй прамове П'ер Дзюпюі, м. ін., сказаў: **— Для нас, арганізатараў Сусветнай выстаўкі, з'яўляецца вялікім гонарам тое, што Беларуская Рэспубліка — член Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і член Міжнароднага бюро выставак — накіравала сюды такую важную дэлегацыю... Велізарная цікавасць да вашага павільёна паказвае, што ён поўнасцю адпавядае духу «Экспо-67» і служыць высакароднай справе ўмацавання добрай волі паміж людзьмі.**

Затым выступіў шэф беларускай дэлегацыі, Ц. Кісялёў. Выказаўшы задавальненне тым, што на Сусветнай выстаўцы адзначаецца Дзень Беларускай ССР, Кісялёў сардэчна падзякваў уладам Манрэаля, правінцыі Квебек і ўсім канадцам за гасціннасць.

**— Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, правадыром якой быў Уладзімір Ільіч Ленін, прынесла нашаму народу сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, дала магчымасць стварыць сваю дзяржаву, адкрыла шырокую прастору для ўсебаковага матэрыяльнага і духоўнага прагрэсу... Савецкая Беларусь з'яўляецца адным з заснавальнікаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Нашы цяперашнія намаганні на міжнароднай арэне, як і ў мінулым, прысвечаны нястомнай паслядоўнай барацьбе за мір, за бяспеку і свабоду народаў,** — гаварыў Кісялёў, навязваючы да падставовых прынцыпаў беларускай міжнароднай палітыкі. Затым прамоўца расказаў аб дасягненнях беларускай эканомікі і культуры. Яго прамову выслухана з вялікай увагай і неаднаразова перапынялася апладысментамі.

Пасля цырымоніі і прамоў, дзяўчаты ў беларускіх касцюмах запрасілі гасцей агледзець экспазіцыю Савецкай Беларусі. З соцен рэпрадуктараў Сусветнай выстаўкі гучалі беларускія народныя песні і песні сучасных беларускіх кампазітараў, падкрэсліваючы святочную атмасферу ў гэты «беларускі дзень» на манрэальскай выстаўцы.

**(С. Я.)**

## ПОЛЬШЧА

### ІНДЗІРА ГАНДЗІ

Па запрашэнню польскага ўрада 8-га кастрычніка прыбыла ў нашу краіну з афіцыйным візітам прэм'ер Індыі Індзіра Гандзі. На аэрадроме ўрачыста віталі яе кіраўнікі нашага ўрада на чале з Юзэфам Цыранкевічам. Аб размовах праведзеных прэм'ерам Індыі з польскімі кіраўнікамі дзяржавы паінфармуем чытачоў у наступным нумары «Нівы».

### 267 ТЫСЯЧ СТУДЭНТАЎ

2-га кастрычніка пачаўся новы навучальны год на вышэйшых установах. У гэтым годзе ў 76 вышэйшых школах нашай краіны вучыцца 267 тысяч студэнтаў.

### 2,5 МІЛЬЯРДА ЗЛОТЫХ

Намеснік старшыні камісіі планавання пры Радзе Міністраў — Збігнеў Янушка на агульнакраёвай нарадзе прысвечанай рэалізацыі грамадскіх чынаў паінфармаваў, што гадавая вартасць грамадскіх чынаў у краіне ацэньваецца на 2,5 мільярда злотых.

### ПЛЕНУМ ЦРПС

3 і 4 кастрычніка адбыўся пленум Цэнтральнай рады прафесіянальных саюзаў. Пленум апрацаваў праграму рэалізацыі пастаноў VI кангрэсу прафсаюзаў на 1967—1969 гады. Пленум паклікаў таксама Выканаўчы камітэт і 15 праблемных камісій ЦРПС.

### ДЭЛЕГАЦЫЯ КП ІСПАНІІ

На запрашэнне ЦК ПАРП ад 27. IX. да 4. X. 1967 г. прабывала ў Польшчы дэлегацыя Камуністычнай партыі Іспаніі на чале з генеральным сакратаром Сант'яга Карыла. У час перагавораў, якія праходзілі ў цёплай і сяброўскай атмасферы, выказаны былі погляды аб дзейнасці і аб актуальных праблемах абедзвюх партый, а таксама погляды аб актуальнай міжнароднай сітуацыі ў міжнародным камуністычным і рабочым руху.

### ДЗЕНЬ ВОЙСКА

8-га кастрычніка адбыліся ў Варшаве цэнтральныя святкаванні дня Войска Польскага. Традыцыйным звычаем адбылася ўрачыстая клятва афіцэраў абсальвентаў афіцэрскіх школ і вайсковых акадэмій.

### МЕСЯЦ АШЧАДНАСЦІ

5-га кастрычніка ў Кашаліне адбылося адкрыццё традыцыйнага ўжо ў Польшчы месяца ашчаднасці. Міністр фінансаў Е. Альбрэхт на гэтай урачыстасці сцвердзіў, між іншым, што ў гэтым годзе ашчаднасць насельніцтва пабольшылася на 12 мільярдаў зл. У канцы гэтага года ўклады ашчаднасці складуць суму блізка 78 мільярдаў зл.

### УРАЧЫСТАСЦІ Ў КРАСНІКУ

У рамах святкавання 50 гадавіны Вялікага Кастрычніка 8. X. 1967 г. у Красніку адбыліся ўрачыстасці, на праграму якіх склаліся: адкрыццё помніка партызанам, умураванне краевугольнага каменя пад будынкі прафесіянальных школ і адкрыццё новага цэха красніцкай фабрыкі металічных вырабаў.

**М. Х.**

## ВАЯВОДСТВА

### ПАЧАТАК СТУДЭНЦКАГА ГОДА

Студэнты Беластоцкай медыцынскай акадэміі і Вышэйшай інжынерскай школы вучацца ўжо ад першага кастрычніка. Аднак урачыстае адкрыццё новага навучальнага года адбылося ў Беластоцкім тэатры 10-га кастрычніка. З гэтай нагоды Акадэмія наладзіла навуковую сесію прысвечаную 50 гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, а ў студэнцкім клубе «Геркулесы» выступілі студэнцкія тэатры з многіх гарадоў. Беластоцкая медыцынская акадэмія выпусціла дагэтуль ужо 1958 лекараў.

Падобная ўрачыстасць адбылася таксама ў студэнтаў завочнікаў Галоўнай школы планавання і статыстыкі, якая мае свой кансультацыйны пункт у Беластоку.

### СВЯТА МІЛІЦЫЯНЕРАЎ

Ва ўсёй краіне 7 кастрычніка адзначалася 23 гадавіна службы міліцыянераў і працаўнікоў бяспекі дзеля спакою і парадку. У Беластоку ўрачыстае пасяджэнне адбылося ў тэатры 6 кастрычніка, у якім прынялі ўдзел між іншым прадстаўнікі гродзенскай міліцыі: палкоўнік М. Кісель, падпалкоўнік М. Руткоўскі і падпалкоўнік Г. Казлоў.

У нядзелю ўрачыстасці з нагоды 23 гадавіны міліцыі і службы бяспекі працягваліся ў Кольне. Кольненская паветовая камендатура МО атрымала ад грамадства павета сцяг.

### ГОСЦІ З ГРОДНА

5 працаўнікоў гандлёвых устаноў Гродзеншчыны пабывала ў Гайнаўскім, Бельскім і Ломжынскім паветах. Цікавіліся яны арганізацыяй вясковага гандлю на Беласточчыне. Абмен вопытам і абмен дэлегацый стаўся ўжо традыцыяй у гродзенскіх і беластоцкіх працаўнікоў гандлю.

### СПУЛДЗЕЛЬНЯ ЗДАРОЎЯ

**У вёсцы Бакалажэва, Сувальскага па**вета, адкрыта лекарскую спулдзельню здароўя — 23-цюю ў Беластоцкім ваяводстве. Да канца гэтага года пачнуць працу яшчэ тры новыя лекарскія спулдзельні здароўя.

### ПРАФЕСІЯ ДЛЯ МАЛАДЫХ

Прызавадская школа гуты шкла ў Беластоку прымае яшчэ вучняў (хлопцаў ва ўзросце 14—16 год) да навукі прафесіі. Пасля двухгадовай навукі вучні атрымаюць працу і добрую зарплату. Ад кандыдатаў патрабуецца вельмі добрага здароўя і пачатковай адукацыі.

### ЗАЦВІЛА ЯБЛЫНЯ

У агародчыку Міхася Байко з Белавежы зацвіла маладая яблыня, якая дагэтуль яшчэ ніколі не цвіла. Ці ж бы памылілася яна што да пары года?

### МЕСЯЦ АШЧАДНАСЦІ

Кастрычнік — ужо традыцыйна — аб'яўлены месяцам ашчаднасці. ПКО ў гэтым годзе для ўдзельнікаў конкурсу пад лозунгам «Акцыя 300» прызначае на ўзнагароды 2,7 мільёнаў зл. і 5 легкавых аўтамашын. Удзельнікам гэтага конкурсу можа быць кожны, хто на кніжцы ПКО пратрымае на працягу 4 месяцаў хаця б 300 злотых.

(вр)




**NIEDZIELA 15.X.**

9.55 Program. 10.00 TV Kurs Rolniczy: „Budynek jako środowisko dla zwierząt''. 10.35 „Przypominamy, radzimy'' — „Remont silosów''. 10.45 „Minerzy podniebnych dróg'' — film tv radz. cz. IV. 12.00 Sprawozdanie sportowe. W przerwie ok. 12.45 Dziennik. 13.45 „Przemiany''. 14.15 „Blues'' — film („Koń, który mówi''). 14.40 Teatr Młodego Widza: J. Domagalik — „Anka''. 15.30 „Inny'' — rep. film. 15.45 „Wojskowe tradycje'' — teleturniej. 16.35 Teatr Niedzielny: Alfred de Musset — „Osioł nad strumieniem''. 17.25 „Piórkiem i węglem''. 17.45 „Tango Milonga'' — piosenki J. Petersburskiego. 18.40 „Bohdan Czeszko'' („Spotkanie z pisarzem''). 19.05 „Wizerunek Naczelnika'' — film pol. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Jazz Jamboree 1967 — Koncert finałowy. 20.45 „Ranny ptaszek'' — film fab. ang. 21.40 „Niedziela Sportowa''.

**PONIEDZIAŁEK, 16.X.**

15.40 Program. 15.45 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 „Kino Ptyś''. 17.30 „Tramp''. 17.50 „Duszka'' — film fr. 18.10 „Eureka''. 18.40 „Klaps''. 19.20 „Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: Z. Skowroński: „Maturzyści''. 21.35 „Diamentowa ziemia'' — film Tele-Aru. 21.50 Dziennik. 22.05 Program na jutro. 22.10 Politechnika TV.

**WTOREK, 17.X.**

7.30 „Człowiek wśród ludzi'' — film („Dr Schluter'') cz. V. 9.55 Dla szkół (kl. lic.) Język polski: W. Szekspir „Makbet''. 10.40 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. X—XI) Język polski — K. Treniew „Lubow Jarowaja''. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. V—X!) Język polski: „O miejsce wśród ludzi''. 12.30 Przysposobienie Rolnicze: „Zwalczanie chorób i szkodników zbóż''. 13.05 Przerwa. 15.05 Program. 15.10 „Zwalczanie chorób i szkodników zbóż''. 15.45 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Rozkosze łamania głowy'' odc. III. 17.25 Dla młodych widzów: „Zapraszam na wtorek wieczór''. 17.55 „Giełda piosenki''. 18.25 „Po szóstej''. 19.05 TV Kurier Warszawski. 19.20 „Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 „Gorąca linia''. 20.40 „Człowiek wśród ludzi'' — film („Dr Schluter'') cz. V. 23.00 Dziennik. 23.15 Program na jutro.

**SRODA, 18.X.**

10.00 „Tania i jej matki'' — film radz. 11.35 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VIII) „Przyrządy optyczne''. 12.25 Przerwa. 15.40 Program. 15.45 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Pan Półka i Spółka''. 17.20 Dla dzieci: „Bolek i Lolek na wakacjach'' — film. 17.30 „Nie tylko dla pań''. 17.50 PKF. 18.00 Wszechnica TV: „Medycyna polska dziś i jutro''. 18.30 „Sylwetki X Muzy'' — Kazimierz Rudzki. 19.00 „Katedra z Faras'' — rep. filmowy. 19.20 „Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 „Żegnaj George'' — film („Alfred Hitchcock przedstawia''). 20.55 „Światowid''. 21.25 Program filmowy. 21.55 „Nauka i polityka'' — rozmowa z M. Żychowskim i A. Kruczkowskim. 22.10 Dziennik. 22.25 Program na jutro. 22.30 Politechnika TV.

**CZWARTEK, 19.X.**

10.55 Dla szkół (kl. V) Język polski: „Maria Konopnicka''. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. V) Historia „O bogach i ludziach''. 12.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem''. 18.05 „Telekram''. 18.15 „Bryza''. 18.40 „Dobry wieczór, jak minął dzień''. 19.20 „Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.00 „Koniec jednego opowiadania'' — nowela filmowa pol. 20.20 „Kryptonim PL''. 20.45 „Wieża Babel we Wrocławiu'' — reportaż z Międzynarodowego Festiwalu Studentów. 21.15 Międzynarodowy Festiwal Muzyki Jazzowej „Praga 67'' (Praga). 22.15 Dziennik. 22.30 Program na jutro. 22.35 Politechnika TV.

**PIĄTEK, 20.X.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Zajęcia techniczne: „Ciepło i kształt''. 10.20 „Skrawek błękitnego nieba'' — film fabularny jugosł. 11.55 Dla szkół (kl. V) Wychowanie plastyczne: „Plakat''. 12.25 Przerwa. 15.45 Politechnika TV. 17.00 Dla dzieci: „Zręczne ręce''. 17.40 „Nafta na Saharze'' — film („Wielka przygoda''). 18.10 Wszechnica TV: „Nauka radziecka''. 18.40 „Karykatury Kazimierza Sichulskiego''. 19.05 TV Kurier Mazowiecki. 19.20 „Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 „Generale, nikt pana nie pozna'' — program historyczny. 20.30 Teatr TV: „Romeo z Samary''. 21.40 Z cyklu „Profile kultury''. 22.10 „10 minut recenzji''. 22.20 Dziennik. 22.35 Program na jutro. 22.40 Politechnika TV.

**SOBOTA, 21.X.**

9.40 „Nagich przyodziać'' — film fab. wł. 11.15 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Zoologia: „Pierwotniaki''. 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Geografia: „Ameryka Północna''. 13.15 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 TV Kurs Rolniczy: „Poprawa środowiska w budynkach starych lub niewłaściwie zbudowanych a z konieczności używanych''. 16.20 „Atletyka terenowa'' („Wychowanie fizyczne naszych dzieci''). 16.30 Program tygodnia. 16.55 Dziennik. 17.05 Dla młodych widzów: „Konkurs pięciu milionów''. 18.05 „Kino Filmów Amatorskich''. 18.35 „Spotkania z przyrodą''. 19.00 „Gawędy o współczesności''. 19.20 Dobranoc. 19.30 „Monitor''. 20.10 „La Fontaine wiecznie żywy'' — film. 20.40 „Najpiękniejsza i inne...'' („Z kobietą w tytule'') — piosenki Arno Babadżaniana. 21.30 Dziennik. 21.45 Wiadomości sportowe. 21.55 „Ubogich przyodziać'' — film fab. wł.




**13 października, piątek**

14.20 Program. 14.25 Dziennik. 14.30 Język angielski dla przedszkolaków. 14.50 Reportaż z wystawy malarzy białoruskich. 15.20 „Bohaterska droga walki i budownictwa''. 16.00 „Śladami płonącego czołgu''. 16.35 Dla uczniów. 17.20 Dziennik. 17.40 „Tezy KC KPZR''. 18.00 „Sztafeta nowin''. 19.00 Program muzyczny. 19.30 „Lecą żurawie''. Film. 21.00 Dla studentów.

**14 października, sobota**

6.00 Dla studentów. 8.00 Gimnastyka. 8.30 Dla uczniów szkół technicznych· detale maszyn. 9.00 Dla uczniów. Walancin Taułaj. 9.30 Język angielski dla przedszkolaków. 9.50 „Kto się śmieje ostatni''. Film. 11.55 Program. 12.00 Telewizja barwna. 14.00 „Podróż po wystawie''. 14.45 Tezy KC KPZR. 15.00 Klub filmowy. 16.00 Przegląd międzynarodowy. 16.30 Dziennik. 16.45 „Kronika półwiecza''. Rok 1945. 17.45 Koncert życzeń. 18.30 Dziennik. 19.00 „Willa pod Wiedniem''. Spektakl TV. Część 1. 20.10 Przegląd filmowy.

**15 października, niedziela**

7.55 Program. 8.00 „Budzik''. 8.30 Dla uczniów. 9.10 Teatr literacki. 9.50 „Szkatułka muzyczna''. 10.10 „Wszystko dla człowieka''. 12.10 Teatr TV. 12.30 Dla uczniów. 13.30 Dla pracowników przemysłu spożywczego. 14.00 „Kiosk muzyczny''. 14.25 Koncert pieśni lirycznej. 14.55 Piłka nożna. Austria — ZSRR. 16.45 Tezy KC KPZR. 17.00 Dni Kultury i Sztuki RSFRR na Ukrainie. 20.00 Rozmowy o sporcie. 20.10 Rozmowy o muzyce chóralnej.




### ПАРТЫЯ, ЛЕНІН

Дрэнна чалавеку,
калі ён адзін!
Гора аднаму,
адзін не воін, —
кожны дужэйшы
пан над ім,
і нават слабейшыя,
калі іх двое.
А калі партыяй,
малыя ўсе,
усе мы, —
здавайся вораг,
памрэш усяляк!
Партыя —
рука мільёнапальцая,
сцятая ў адзін
магутны
кулак.
Нуль адзінка,
глупства адно,
адзін —
калі нават
і вельмі здаровы —
не ўзніме
простае пяціваршковае бервяно,
тым больш
дом пяціпавярховы.
Партыя —
гэта мільёнаў плечы
ўзняліся,
адны да другіх
сабраныя шчыльна.
Партыяй
будоўлі
ў неба ўзвысім,
адзін аднаму
пасабляючы пільна.
Партыя —
спінны хрыбет рабочага класа
Партыя —
неўміручасць нашае справы
Партыя — адзінае,
што мне не здрадзіць.
Сёння прыказчык, а заўтра
царствы сціраю з карты я.
Мозг класа,
справа класа,
слава класа —
вось што такое партыя!
Партыя і Ленін —
двайня братняя, —
аднолькава іх
маці-гісторыя
ацэніць.
Мы гаворым — Ленін,
разумеем —
партыя,
мы гаворым —
партыя,
разумеем —
Ленін

**Уладзімір Маякоўскі**

**1. Аб чым гаворыць Маякоўскі ў вершы?**
**2. З чым параўноўвае аўтар партыю?**
**3. Як вы разумееце словы:**
**«Партыя і Ленін — двайня братняя».**
**4. Навучыцеся прыгожа чытаць верш і прасачыце рытм верша.**

### ХАТА ГУРАЛЯ

І днём і ноччу
Шуміць Паронец,
Блакітнай хваляй
Б'е ў бераг стромы,
Гранітнай галькай
Грыміць і звоніць,
Па турнях скача
З вясёлым громам.

У каляровай
У тоні нібы
Адбіты ў люстры
Вяршыні Татраў,
І між цяністых
Ялін і лімбы*
Стаіць на ўзгорку
Гураля хата.

Гураля хата,
Якіх нямала
У гэтым краі
Арлінай волі:
Такія ж сцены
З хваін трывалых,
Такі ж арнамент
Па бэльках столі.

Але чамусьці
Да хаты гэтай,
Да гэтых сцяну
І да парога
З краін далёкіх,
З усяго свету
Пытаюць людзі
Шляхоў-дарогі.

Тут жыў калісьці
Вялікі Ленін,
Пра што раскажуць
Усе з ахвотай:
І кожны газда,
Паронец пенны
І гальны вецер,
І шчыт Гевонта.

Раскажа газда
Пра чалавека,
Які братэрства
Любіў, свабоду,
Чый светлы вобраз
З тых дзён навекі
Застаўся ў сэрцы
Яго народа.

Паток раскажа,
Як Ленін слухаў
Напевы хваляў,
А гальны вецер, —
Як ён у буру,
У завіруху
Разносіў думы яго
Па свеце.

Гевонт раскажа
**Аб тым, як Ленін**
На ўсход далёкі
Глядзеў з вяршыняў,
Праз хмары бачыў
У аддаленні
Зару над роднай
**Сваёй краінай.**

Стаіць на ўзгорку
Гураля хата.
Як струны, хвоі,
І лімбы звоняць,
Сцягамі ззяюць
Вяршыні Татраў,
І днём і ноччу
Шуміць Паронец.

**Максім Танк**

**1. Якія словы ў вершы сведчаць аб тым, што сярод польскага насельніцтва жыве памяць аб Леніне?**
**2. Апішыце, як выглядае мясцовасць, пра якую гаворыцца ў вершы.**
**3. Знайдзіце словы гукапераймальнага характару.**

### СЛОЎНІК

**Лімба — гатунак дрэва.**

### БІЯГРАФІЧНЫЯ ДАВЕДКІ

**Максім Танк. — Выдатны беларускі паэт. Сапраўднае прозвішча Яўгені Скурко. Нарадзіўся ў 1912 годзе ў сялянскай сям'і. Актыўны дзеяч камсамола Заходняй Беларусі, палымяны рэвалюцыянер, шмат год правёў у турмах санацыйнай Польшчы. З'яўляецца аўтарам шматлікіх вершаў і паэм. Займаецца перакладамі польскай літаратуры на беларускую мову. Многа працуе ў галіне дзіцячай літаратуры. Юнаму чытачу добра вядомы яго кнігі: «Галінка і верабей», «Казка пра мядзведзя», «Конь і Леў» і іншыя.**

# У СПРАВЕ РОДНАЙ МОВЫ

Міхась Хмялеўскі старшыня Камісіі культуры пры ГП БГКТ, у 48 нумары тыднёвіка «Ніва» ад 27 лістапада 1966 г. у сваім артыкуле заклікаў да дыскусіі над справай стварэння аб'яднання любіцеляў беларускай мовы ў беларускіх школах, даказваючы гэта, між іншым, тым, што **«наша мясцовая беларуская мова мае многа паланізмаў і русізмаў. У некаторых ваколіцах Беласточчыны мясцовы дыялект значна адбягае ад літаратурнай мовы. Больш таго. Вельмі часта можна спаткацца з пагардай да роднай мовы, з сарамлівасцю да яе»**. Мне, як выкладчыку беларускай і польскай моваў, вядома, што калі настаўнік вядзе гурток жывога слова на польскай мове, з поспехам справіцца і з гэтым мерапрыемствам і ў беларускай мове.

Такім чынам дзеці скарысталі б вельмі многа.

Настаўніку, якому гэтая справа не абыякавая і якому дарагая родная мова, не будзе цяжка прывіць любоў у дзяцей да пазнавання добра напісаных на беларускай мове твораў, да пазнавання прыгажосці беларускай мовы. Ён сваім падыходам і энтузіязмам можа і патрапіць запалоніць сваіх выхаванкаў гэтай вельмі карыснай справай.

**У гэтым павінна быць аднак і дапамога з боку ГП БГКТ.** Па-першае, патрэбна тое, каб ГП БГКТ дайшло да **паразумлення з аддзеламі асветы павя**товых рад нарадовых у справе аплочванняў за гэтыя два школьныя ўрокі ў тыдзень, як гэта робіцца з гурткамі жывога слова на польскай мове. Прытым патрэбна арганізаваць вечарыны, дэкламацыі твораў беларускай літаратуры, вечары беларускай песні, аўтарскія сустрэчы, або высвятляць беларускія фільмы, наглядаць за праграмай мінскага тэлебачання. У гэтым у асноўным павінна аказаць дапамогу ГП усім школам, дзе былі б паклікаяны да жыцця гурткі любіцеляў беларускай мовы, дзе настаўнік вёў бы ўрокі на тэмы культуры беларускай мовы, яе чысціні і г.д. Тады можна было б смела сказаць, што такі гурток прыцягнуў бы да сябе і вучняў і старэйшых. Старэйшыя ахвотна ў асенне-зімовы перыяд збяруцца вечарам у клубе або ў школе, каб паслухаць лекцыі, лектарскіх гутарак, літаратараў, паглядзець добры, змястоўны беларускі фільм.

Метады працы такога гуртка пакуль што не выпрацаваны і іх трэба супольна выпрацоўваць, як настаўніку беспасрэдна, так і ГП пасрэдна. **Добра было б у ГП склікаць у гэтай справе нараду, падыскутаваць, выказацца супраць і за, дайсці да паразумлення.** Ідэя такога роду мерапрыемства бясспрэчна варта шырэйшага прапагавання. Не можна дапусціць, каб яна загінула ў пялёнках. Яна маладая. **Трэба** яе падтрымаць. Гэта цэнная думка, высакародная, свежая. Яе трэба супольнымі сіламі ажыццявіць.

Думаю, мой голас у гэтай справе не будзе апошнім.

Іншыя настаўнікі напэўна гэтую думку падтрымаюць. Спадзяюся на маладых энтузіязмам сяброў, якія ў гэтай справе выкажуцца на старонках «Нівы».

**Янка Цялушэцкі**



## ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

**Хто што сказаў?**

**НІНА СМАЛЕЎСКАЯ**, Плёскі, Бельскі павет, вучаніца, 16 год.

**ПРАЧЫТАЛА:**
**Я. Купала «Бандароўна»**
**З. Бядуля «Салавей»**
**Я. Колас «На ростанях»**

«Выбраныя творы мне падабаліся таму, што ў іх пісьменнікі адлюстравалі гераічнае мінулае беларускага народа. Цяжка жылося ў той час беларускім працоўным. Яны былі пазбаўлены ўсялякіх правоў. Творы на тэму жыцця беларускага народа мне вельмі заўсёды падабаюцца».

**ВАЛЯНЦІНА ХІЛІМАНЮК**, Бельск, Педагагічны ліцэй, вучаніца, 17 год.

**ПРАЧЫТАЛА:**
**Я. Купала «Курган»**
**Я. Колас «Новая зямля»**
**Я. Маўр «Палескія рабінзоны»**
**Я. Колас «На прасторах жыцця»**

«Творы гэтыя мне падабаліся таму, што ў іх многа драматычнага напружання, жывая акцыя. Героі твораў вызначаюцца вялікай адвагай, таленавітасцю».

**ЛІДЗІЯ ТАМАШУК,** Рыбалы, Бельскі павет, вучаніца, 16 год.

**ПРАЧЫТАЛА:**
**Я. Купала «Бандароўна»**
**А. Карпюк «Данута»**
**І. Мележ «Подых навальніцы».**

«Творы напісаныя з вялікай псіхалагічнай чуллівасцю. Лёсы герояў становяцца блізкімі нам. Мова твораў, параўнанні народныя ў «Бандароўне», або палешуцкія выражэнні ў «Подыху навальніцы», умела выкарыстаны аўтарам, каб даць поўны вобраз герояў і іх дзейнасці».

# СУЧАСНЫЯ ХАТЫ



**Зараз сяляне будуюць хаты мураваныя, прасторныя, з вялікімі і шырокімі вокнамі, з некалькімі пакоямі і выгоднай кухняй. На здымку хата Івана Васілюка з Плюціч, што на Бельшчыне. Тэкст і фота: М. Х.**

 

(Працяг са стар. 1)

# НАРОДНАЕ З НАРОДАМ

нага насельніцтва адлюстраваць лікамі. Вось сёння атрымалі мы ліст аж з Катавіцкага ваяводства. Піша 24-гадовы Юзэф Лазарэк. Паслухайце: «Грамадзянін камандзір! Ваш салдат, капраль Станіслаў Мжык, выратаваў мяне ад смерці. Я купаўся на возеры і раптам схапіў мяне скурч мускулаў. Я пачаў тапіцца. На беразе знаходзілася многа цывільных людзей і ўсе яны абыякава глядзелі на маю трагедыю. Толькі ваш салдат кінуўся мне на дапамогу, нават не распрануўшыся, не было дзеля гэтага часу. Выцягнуў мяне з вады ўжо непрытомнага і займаўся мною, пакуль не прыехаў лекар хуткай дапамогі...»

Вось і так бывае. А як вымяраць бясплатную лекарскую дапамогу сялянам? Лекарскія групы нашай часці ездзяць у вёскі даволі часта. Асабліва многа працы мелі нашы зубныя лекары.

Нашы кантакты абаснаваны на ўзаемнай дапамозе — так як у сапраўдным сяброўстве. Таму яны трывалыя.

**Віктар Рудчык**



Аня Марцінкевіч са сваім падарункам ад салдат ВОП.
Фота: архіў бел. ч. ВОП

# СУСТРЭЧА З БЕЛАСТОЧЧЫНАЙ 1967

Пад такім лозунгам ад 16—31 жніўня г.г. у Борках над маляўнічым аўгустоўскім возерам Нэцка праводзіўся навуковы семінар для студэнтаў і абсальвентаў вышэйшых навучальных устаноў-стыпендыстаў Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку, а таксама навуковых працаўнікоў, якія пішуць працы звязаныя тэматычна з нашым ваяводствам.

Арганізатары семінара — Прэзідыум ВРН, Ваяводскія праўленні ЗМС і ЗМВ, Беластоцкае навуковае таварыства і Беластоцкае таварыства культуры добра падрыхтавалі арганізаванае мерапрыемства, якога мэтай было азнаямленне ўдзельнікаў з дасягненнямі Беласточчыны, з прыгажосцю нашай зямлі.

З грамадска-гаспадарчымі дасягненнямі Беласточчыны, з развіццём турыстычнага руху знаёмілі прысутных старшыня Прэзідыума ВРН у Беластоку С. Жмійка і намеснік старшыні: інж. Е. Зентара і мгр Л. Ахоцкі.

Варта ўспомніць і аб тым, што значная частка ўдзельнікаў семінара (а было іх 74 асобы) паходзіць з беларускіх вёсак Беласточчыны.

Хаця арганізатары семінара і не прадбачылі ў планаваных занятках беларускай праблематыкі, гэтая праблематыка чырвонай ніткай праходзіла амаль праз усе даклады, з якімі выступалі навуковыя працаўнікі розных галін ведаў.

Праф. др С. Гербст — дэкан Гістарычнага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта ў сваім дакладзе гаварыў аб маладых гадах польскага нацыянальнага героя, перажытых у беднай беларускай вёсцы на Палессі.

Этнограф Варшаўскага ўніверсітэта праф. др А. Кутшэба-Пайнарова ў цікавым дакладзе аб народнай культуры Беласточчыны шмат месца прысвяціла матэрыяльнай і духовай культуры беларускага насельніцтва.

Археолаг мгр Ян Ясканіс у дакладзе аб старажытным мінулым беластоцкай зямлі гаварыў аб археалагічных знаходках у Курашаве, Катлоўцы, Кутаве і іншых беларускіх вёсках Беласточчыны.

Др Г. Маецкі ў дакладзе «Фарміраванне народнай улады на Беласточчыне» гаварыў аб значным укладзе беларускага насельніцтва ва ўмацаванне гэтай улады і аграмадных ахвярах панесеных у барацьбе з бандамі.

Журналіст «Газеты Беластоцкай», пасол у сейм ПНР К. Маршалэк-Млынчык у інфармацыі аб музеях Беласточчыны ўспамянула таксама і аб Беларускім этнаграфічным музеі ў Белавежы.

У Дзень друку, радыё і тэлебачання побач з інфармацыямі аб працы Беластоцкага радыёвяшчання — рэд. З. Бжазоўскага, працы «Газеты Беластоцкай» — сакратара рэдакцыі Р. Краська была інфармацыя аб працы рэдакцыі «Нівы», з якой выступіў яе галоўны рэдактар Г. Валкавыцкі.

Вядомы беластоцкі мастак М. Валкавыцкі пазнаёміў удзельнікаў семінара з працамі вядучых беластоцкіх мастакоў падчас вернісажу мастацкай выстаўкі ў Аўгустове.

У цікавай дыскусіі, што адбылася на заканчэнне семінара, яго ўдзельнікі сцвярджалі, што многія выхадцы з Беласточчыны пасля заканчэння вышэйшых навучальных устаноў не вяртаюцца ў родныя мясціны. Высоўваліся прапановы, каб на вышэйшых навучальных установах краіны арганізаваць і прапагаваць «Гурткі любіцеляў Беластоцкай зямлі», пашыраць веды аб дасягненнях Беласточчыны ва ўсіх галінах.

Ваяводская рада нарадовая штогод прызнае сотні стыпендый студэнтам розных вышэйшых навучальных устаноў. Гэтыя стыпендыі выкарыстоўваюцца толькі часткова.

Ды нават і тыя студэнты, што скарысталі са стыпендый, часта выязджаюць пасля студыяў да працы ў іншыя ваяводствы. Адной з прычын гэтага, як сцвярджалі дыскутанты, з'яўляецца недахоп пастаяннага кантакту паміж установай, якая дае стыпендыю, і студэнтам-стыпендыстам. Падобныя семінары будуць праводзіцца штогод.

**Віктар Швед**

# Заўвагі да «матэрыялаў» у гонар Кастрычніцкай рэвалюцыі

У трэцім квартале г.г. Ваяводскі дом культуры ў Беластоку выдаў брашуру тыражом у 500 штук так зв. «Матэрыялы звязаныя са святкаваннем 50 гадавіны Вялікай Сацыялістычнай рэвалюцыі», якія згодна з мэтай публікацыі павінны служыць дапамогай у падрыхтоўцы мантажаў на святкаванні Кастрычніка.

Справа гэта добрая, але нароўні з цікавымі распрацоўкамі дапушчана шмат істотных памылак, якія могуць выклікаць у слухачоў і ўдзельнікаў падрыхтоўкі вечарын засцярогі. Таму хочам папярэдзіць працаўнікоў культуры беларускіх асяроддзяў аб неабходнасці разумнага карыстання з гэтых матэрыялаў. Важна гэта тым больш, што хутка выйдзе падобны паэтыцкі мантаж таго ж ВДК на беларускай мове, які падрыхтаваў В. Швед.

Вельмі цікава апрацаваны 5-старонкавы ўступны артыкул Ю. Кавальчыка пад загалоўкам: «Вялікая сацыялістычная Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917—1967». Можа ён быць выкарыстаны да падрыхтоўкі дакладаў, або ўступнага слова перад вечарынамі, адгаданкамі і гэтак далей.

Найвялікшую вартасць, паводле мяне, мае апрацаваная Кавальчыкам «Zgaduj-zgadula: Co wiesz o Związku Radzieckim».

Складаецца яна з 10 адгаданак, якія можна праводзіць у школах, святліцах, бібліятэках па адной, дзве, або і больш у залежнасці ад папулярнасці такіх мерапрыемстваў у асяроддзі.

Праўда, ёсць тут невялікія недакладнасці, але ўсё гэта не паніжае вартасці апрацоўкі. Раім выкарыстоўваць яе як найшырэй не толькі для прыемнай забавы, як піша ў метадычных указаннях аўтар, але і для пашырэння ведаў аб СССР.

Што можна сказаць адносна апошніх 26 старонак матэрыялаў? Апублікаваныя два вядомыя апавяданні: С. Мсціслаўскага «Шпак — веснавая птушка» і М. Горкага «Маці» могуць быць выкарыстаны да літаратурных мантажаў. Пералік бібліяграфіі выдадзенай у Польшчы дае шырокія магчымасці падборкі адпаведнага матэрыялу да апрацоўкі дакладаў, мантажаў. Замешчана 5 праектаў дэкарацыі сцэны вечарын, месца на шостую — нявыкарыстана.

Дагэтуль — ўсё добра. Але ёсць і дрэннае.

Найбольш засцярог выклікае мантаж «Rozdmuchany pożar świata» апрацаваны Р. Войнічам паводле паэм А. Блока «Дванаццаць» і Ю. Тувіма «Кветкі польскія».

Гэты 16-старонкавы мантаж, які меў, дзякуючы спалучэнню двух спецыфічных твораў вядомых паэтаў, даць «дадатковыя карысці ў сугестыўнасці праграмы прысвечанай справам Кастрычніцкай рэвалюцыі», фактычна не дае нічога. Гэта вельмі вульгарны, заблытаны ў змесце тэкст. У ім удзельнікі вечарыны маглі б пачуць такія звароты, як: «...Marzenia, a za nimi — szczury... Uciekł ten drań!. A leż na śniegu, ścierwo, leż!... Nad kolosalną mordą miasta... Czyś ty baba...» і іншыя.

Не вядома, якое ўздзеянне зробяць на польскую грамадскасць такія звароты, як: «Kropniemy kulką w świętą Ruś... Pobłogosław, Panie!... Wańka, Kat'ka, Andriucha».

Вялікія засцярогі выклікаюць некаторыя метадычныя ўказанні, напрыклад, лянсаванне лозунга (з памылкай) «Вся власть»..., або «Вся власть констытуанте», тады калі лозунг гэты ўсюды вядомы, незалежна ад частай змены яго тагачаснай гістарычнай актуальнасці, як «Вся власть советам».

Не ўключаючы ў спецыфіку польскага асяроддзя для асяроддзяў беларускіх мантаж гэты непрыдатны, ніякіх эфектаў падрыхтоўка яго не дасць, і таму працаваць над ім не раім.

Іншыя матэрыялы трэба выкарыстоўваць.

**Ул. Юзвюк**

# СЯРПОМ ЦІ КАСОЮ?

Пытанне не належыць да актуальных. На гэтае пытанне сяляне нашыя далі зусім іншы адказ: найлепш збіраць збожжа жняяркаю і трактарам. Пытанне было аднак актуальным яшчэ нейкіх дзесяць гадоў таму назад. Вяртаемся да яго не дзеля ўспамінаў — механізм замены сярпа касою дазваляе зразумець многае з характару народнай культуры беларусаў.

Больш-менш дзесяць ці пятнаццаць гадоў таму назад сяляне ў многіх нашых вёсках падзяліліся на дзве часткі: адны пераконаны былі ў тым, што выгадней жаць збожжа сярпом, іншыя стаялі за больш сучасную прыладаю — касою. Старэйшыя сяляне вынаходзілі сотні аргументаў, каб даказаць, што ўборка збожжа касою і нявыгадная, і неэканамічная, і непрактычная.

Ведаю гэтых людзей і часта з імі сёння сустракаюся. Цікава, што забылі зусім сваю аргументацыю супраць прагрэсу ў палявых працах, неахвотна прызнаюцца да дзіўнай сваёй кансерватыўнай упартасці, не вельмі разумеюць прычыны сваёй былой неахвоты да тэхнічных навінак у сельскай гаспадарцы. Неахвотнасць гэтая стаецца аднак зразумелай для аб'ектыўнага назірання пераўтварэнняў нашай вёскі на працягу апошніх дзесяцігоддзяў. Бо з уваходам гэтых навінак вязаліся неабходнасць пераўтварэнняў усяго светапогляду і стылю жыцця жыхараў вёскі.

Не цяжка, скажам, заўважыць, што з заменаю сярпа касою загінула ўся жніўная абрадавасць і ўвесь жніўны фальклор. Старэйшыя жыхары вёсак могуць прыпомніць яшчэ сабе, чым было жніво за часоў іх маладосці. Было яно вялікай гадавой урачыстасцю, святам працы і плёну. Жніво было ў сваю чаргу вялікім спартыўным спаборніцтвам усяе вёскі, паказам сілы, спраўнасці, умеласці і вытрымкі. Тут ацэньваліся якасці гаспадара, якасці маладых хлопцаў і дзяўчат, кандыдатаў да жаніцьбы.

Жніво было вялікім фестам, урачыстасцю таварыскага і адначасова мастацкага характару. Праца сярпом цяжкая і манатонная, але не інтэнсіўная. На вузкіх палосках можна было не толькі спаборнічаць, але і весці доўгія размовы, пляткаваць аб вясковых і «сусветных» справах. Жнеі часта спявалі. Спявалі ў час самой працы і ў час урачыстага яе заканчэння — дажынак.

«Цудоўны выгляд сялянскіх палёў, — пісала аб беларускай вёсцы з канца XIX стагоддзя Эма Еленьская, — падчас важнейшых летніх прац. Дым ад усюль сцелецца па полі і ад усюль плывуць песні, а дарогаю памалу цягнуцца ў вёску скрыпячыя вазы запрэжаныя параю валоў, везучы плён да хаты».

А Ян Булак, вялікі польскі мастак, класік мастацкай фатаграфікі яшчэ ў 1935 годзе ў наступных словах апісваў беларускія дажынкі:

«Простая, убогая мелодыя жніўнай беларускай песні цвёрдая, абдзёртая з прыгажосці вучонай гармоніі, затое поўная суровасці і сумнага прымірэння. Ёсць у ёй стыхійнае падпарадкаванне зямлі і натуры, ёсць працяглыя аднастайнасць, бязрадасныя, як шэры сялянскі лёс, як паход працавітых дзён і гадоў сялянскага жыцця. Але як жа шырока і гучна яна плыве! Якая ў ёй гучыць абрадавая сур'ёзнасць! А пасля кожнай адспяванай страфы хор падхоплівае яе і кідае ў прастору доўгім, дрыжлівым стогнам, які сцелецца па пожнях, як вячорны ўздых зямлі.

Дзіўная, узрушаючая песня. Чужы, магчыма, не знойдзе ў ёй нічога, апрача крыклівай манатоніі. Але калі слухалася яе праз усё жыццё, тады чуецца ў гэтым рэхавым паўтарэнні нешта містычнае, зроджанае з таямніцы глебы, нейкі сімвал спрадвечнага сельскага і палявога існавання».

Булак добра ўхапіў сэнс фальклорнага аблямавання чалавечай працы называючы яго «містычным». Фальклорная абрадавасць спалучала чалавека з шырэйшымі, не заўсёды свядома ўспрыманымі вартасцямі, надавала яго цяжкай і нуднай працы глыбейшы неэканамічны змест і сэнс.



 

БЕЛАРУСІЯНА

# ЭТНІЧНЫЯ ГРУПЫ ПАДЛЯШША

У I томе выдання «Zeszyty Etnograficzne muzeum kultury i sztuki ludowej w Warszawie», які выйшаў у свет у 1960 годзе, змешчаны быў артыкул этнографа Ежы Дамроша пад загалоўкам: Studies on the diwergecies of folk culture in the North-east Poland (Вывучанне асаблівасцей народнай культуры паўночна-ўсходняй Польшчы). Публікацыя гэта з'яўляецца ў нейкай ступені праграмнай у дачыненні да доследаў польскіх этнографаў на гэтай тэрыторыі. З другога боку артыкул Дамроша для чытача цяжка даступны як з увагі на месца яго надрукавання (успомненае выдавецтва не паяўляецца ні ў продажы, ні ў падпісцы), так і з увагі на мову (надрукаваны ён на англійскай мове). Таму сэнсоўным будзе пераказаць асноўны яго змест.

Дамрош сцвярджае, што Падляшша, як этнаграфічны раён, не з'яўляецца нейкай асобнай адзінкай, а складае адну цэласць з суседняй Мазовіяй. У цэласці раён паўночна-ўсходняй Польшчы характарызуецца пэўнымі рысамі, якія адрозніваюць яго ад іншых раёнаў Польшчы. Перад усім тэмп развіцця гэтага раёна быў у мінулым больш павольным, чымсьці іншых раёнаў краіны. Затым паўночна-ўсходняя частка краіны характарызуецца ўплывамі ўсходнеславянскай культуры, якія сягаюць аж па Віслу, а нават у некаторых выпадках перакрочваюць яе. Уплывы гэтыя назіраюцца перад усім у галіне матэрыяльнай культуры. З другога боку паўночна-ўсходнюю Польшчу, паводле Дамроша, характарызуе пачынаючы ад XV стагоддзя пастаяннае пашырэнне ўплываў польскай культуры, якая ў гістарычным развіцці аказалася ў гэтым раёне дамінуючай.

Для аналізу этнічнага становішча на Мазовіі і Падляшшы аўтар прапануе разрозніць два паняцці: этнічнай групы і этнаграфічнай групы. Падае ён наступныя акрэсленні гэтых груп:

«Этнаграфічная група з'яўляецца групай, якая пражывае ў даным этнаграфічным раёне (курпы, кашубы, ксянжацы і г. д.) і ўваходзіць у склад большай этнічнай цэласці (нацыя або нацыянальнасць), этнічная ж група з'яўляецца групай з большымі адрозненнямі выяўленымі своеасаблівай мовай і іншымі культурнымі рысамі (самаакрэсленнем групы, веравызнаннем, абрадамі і г.д.), выразна супрацьлеглымі ў адносінах да суседзяў». Да этнічных груп на тэрыторыі Польшчы аўтар залічае апрача нацыянальных меншасцей, як беларусы, украінцы, літоўцы, славакі, таксама і некаторыя групы перад усім рэлігійнага характару, як фільмоны і татары. Межы этнічных груп не сыходзяцца з межамі груп этнаграфічных. Пры фармаванні гэтых першых апрача традыцыйных этнаграфічных фактараў рашаючую ролю адыгрываюць такія фактары, як веравызнанне і нацыянальная свядомасць.

Параўнальна многа месца аўтар артыкула прысвячае беларусам Бельскага павета. Паводле яго маюць яны многа супольнага з курпямі з Зялёнай пушчы. Абедзве гэтыя групы развіваліся на перыферыях вялікіх этнічных цэласцей — польскай і беларускай — ва ўмовах ізаляцыі, якой спрыялі геаграфічныя ўмовы (лясы). (п)




## НАПАДЫ ЛІТОЎСКІХ КНЯЗЁЎ НА БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ І ЗАПАЛАНЕННЕ БЕЛАРУСКАЙ ТЭРЫТОРЫІ ЛІТВОЙ

На паўночным захадзе ад беларускіх зямель, па сярэдняму і ніжняму цячэнню ракі Нёмана, здаўна жылі літоўскія плямёны. Яны абраблялі зямлю, займаліся паляваннем і бортніцтвам. Знаходзіліся ў добрых адносінах з Кіеўскай Руссю, а пасля яе раздраблення на ўдзельныя княствы былі ў блізкай сувязі з Полаччынай. Не раз супольнымі сіламі змагаліся супроць нямецкіх захопнікаў, якія прыбылі на ўсходняе пабярэжжа Балтыйскага мора і імкнуліся захапіць землі народаў Прыбалтыкі і ўсходніх славян.

Літоўскія феадалы імкнуліся ўмацаваць сваю ўладу над народнымі масамі. Паўстала неабходнасць абароны ад нямецкай і татара-мангольскай агрэсіі на літоўскія землі. Гэта было прычынай аб'яднання ў сярэдзіне XIII стагоддзя літоўскіх плямёнаў у моцную дзяржаву на чале з вялікім князем.

Пасля нашэсця татара-мангольскіх ордаў на зямлі Кіеўскай Русі пачаўся націск на суседнія з Літвою беларускія землі літоўскіх князёў. Слабыя і вынішчаныя татарскімі нападамі беларускія княствы не мелі сілы супрацівіцца літоўскаму напору.

На пачатку XIII стагоддзя дружыны літоўскіх князёў захапілі Полаччыну і пачалі нападаць адтуль на суседнія ўсходнеславянскія княствы. У хуткім часе літоўскі князь Міндаўг падпарадкаваў сваёй уладзе беларускія землі па верхняму цячэнню ракі Нёмана. За панавання князя Гедыміна (1316—1341) усе землі, паложаныя паміж Заходняй Дзвіной, Дняпром і Прыпяццю апынуліся пад уладай літоўскіх феадалаў.

Такім чынам, у выніку стогадовага наступлення літоўскіх князёў на беларускія землі, яны цалкам увайшлі ў склад новай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага.

Пазней Вялікае Княства Літоўскае пашырыла сваю ўладу на значную частку Украіны і некаторыя рускія землі. З цягам часу яно стала абшырнай і моцнай дзяржавай.

Сталіцай новай дзяржавы спачатку быў горад Новагрудак, а потым Вільня.

Насельніцтва беларускіх зямель гераічна баранілася супроць літоўскага націску. Пра гэта гаворыцца ў народных песнях:

Ой, наехала літва,
Будзе ў нас бітва,
Будзем літву біці,
Вольку бараніці.

Жыццё насельніцтва пад панаваннем літоўскіх князёў было цяжкім. Яно было вымушана даваць даніну не толькі сваім князям, якія па-ранейшаму панавалі ў сваіх удзелах, але і літоўскім феадалам.

*ПЫТАННІ:*

*1. Як адбыўся захоп беларускіх зямель літоўскімі феадаламі?*

*2. Як стала называцца новая дзяржава і дзе знаходзілася яе сталіца?*

# ВЯСКОВЫЯ ПАРТРЭТЫ



Уладзіслаў Грыбок з Трысцянога.

Фота: Ул. Паўлючук

Пры касе людзі перасталі спяваць не толькі таму, што з тэхнічных прычын ні спяваць, ні нават размаўляць тут немагчыма. Праца касою спешлівая і інтэнсіўная, канцэнтруе ўсю ўвагу селяніна на самім акце працы. З уваходам касы, аднак, як і іншых тэхнічных навінак звязана новая «жыццёвая мудрасць». Праца стаецца толькі працай — дзейнасцю разлічанай выключна на забеспячэнне эканамічных патрэб. Спяваць пры працы было б дурна і смешна, бо праца не фест і не «цырк», так як смешна і дурна было б клапатацца аб эстэтычны выгляд пожні, ці звязаных снапоў.

Можна сабе ўявіць, што старыя сяляне інтуіцыйна прадчувалі, што тэхнічныя навінкі збураць усе іх культурныя цэннасці, усю іх выпрабаваную стагоддзямі «філасофію», і таму так заўзята навінкам гэтым супрацьпастаўляліся. Прагрэс аднак з'яўляецца пастаяннай неабходнасцю, і справа не ў тым, каб вяртацца да таго, што было, але ў тым, каб зараз, калі прагрэс гэты знішчыў старую сялянскую «мудрасць» і стары сялянскі стыль жыцця, выпрацаваць новы стыль і новую «мудрасць» дастасаваную да сучаснага прагрэсу нашай вёскі.

**Ул. Паўлючук**

# Як з меліярацыяй?

У мінулым годзе ў часе сустрэчы з насельніцтвам аднае вёскі на Гайнаўшчыне, давялося мне выслухаць многа слоў крытыкі ў адрас павятовых улад за тое, што не меліяруюць яны ім Каганкі. З рукою на сэрцы прызнаюць у гайнаўскім меліярацыйным бюро, што фактычна Каганку трэба меліяраваць, але адначасова падаюць даныя адносна меліярацыі і планаў. На Каганку праўдападобна таксама апрацоўваюць дакументацыю. А меліярацыйныя патрэбы Гайнаўшчыны, як бы каму не здавалася дзіўным, агромныя. Паводле доследаў праведзеных сельскагаспадарчай службай на каля 53.000 гектараў ворнай зямлі ў павеце, амаль 11.000 патрабуе меліярацыі. Калі разыходзіцца аб лугі, дык на 27 тысяч гектараў не патрабуе меліярацыі толькі 1.680 гектараў. Каб ясней сказаць аб патрэбах у галіне меліярацыі, трэба дадаць, што ад пачатку гэтага года многа тут зроблена: лугоў меліяравана каля 8,6 тысяч, а ворнай зямлі 1,5 тысячы гектараў. Гэтыя лікі адначасова гавораць, як многа яшчэ засталося зрабіць.

Але ўжо гэта, што зроблена пры дапамозе меліярацыі, відавочнае. Яно відавочнае ў паасобных вёсках, у гаспадароў, але больш усяго, калі падлічым павятовыя вынікі. Возьмем сена. Яго ўраджайнасць з аднаго незмеліяраванага гектара выносіць 15 цэнтнераў, а з загаспадараванага луга — 50—80 цэнтнераў. Гэта ў сваю чаргу павялічыла колькасць кароў. Калі ў 1960 г. спісы выказвалі 22.878 штук кароў, дык у 1966 было іх 26.668. Больш вобразнай усё ж застаецца скупка малака. У 1965 годзе куплена яго ў Гайнаўскім павеце 11.667.000 літраў, гэта абазначае на 59% больш, чым у 1963 годзе. Як на два гады, гэта крок аграмадны, пацяшаючы і аптымістычны.

Чаму, ці каму трэба дзякаваць за такія вынікі? Зразумела, загаспадараванню лугоў. Але самое загаспадараванне не дало б такіх вынікаў. Як і ўсё новае і сучаснае (у нашых умовах) патрабуе людзей, якія гэтае новае ўмеюць выкарыстоўваць. Адным са спосабаў навукі гаспадароў, як карыстацца загаспадараванымі лугамі, быў «лугавы конкурс». У Гайнаўскім павеце прыняло ў ім удзел аж 42 групавыя ўдзельнікі. Многія гаспадары пераканаліся аб прадукцыйных эфектах загаспадараваных лугоў, а з другога боку спапулярызавалася агароджванне паш, заквашванне корму і т.д.

Міма таго, што кожны год у Гайнаўскім праводзіцца меліярацыю 400 гектараў лугоў і каля 700 гектараў ворнай зямлі, патрэбы ўзрастаюць. Больш ясным стаецца, паказаўшы вышэй прыведзеныя лікі, чаму іменна людзі аднаой з гайнаўскіх вёсак так імкнуцца меліяраваць урочышча Каганку. Нельга не прызнаць ім рацыю. **А. Кар.**

